

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№ 9 (верасень), 2015

# Мяжа



**Пахаванне Воіна**

(старонка 4)

## ЗЬМЕСТ

# Пачатак навучальнага года ў Берасьці адзначыўся адкрыццём адзінага ў горадзе беларускамоўнага класа



1 верасня ў сяредней школе 29 ў Берасьце пачалі заняткі па-беларуску чацвёра вучняў у пятым классе. У гэты ж дзень адбылась урачыстая лінейка прысвечаная пачатку навучальнага года. Дырэктар школы Саўчук Сяргей Уладзіміравіч удзяліў асаблівую ўвагу адкрыццю 5”Г” класа, дзе выкладанне ўсіх прадметаў будзе весціся па-беларуску.

«Сярэдняя школа №29 вядомая высокім прафесіяналізмам настаўнікаў. Наша школа прапануе паглыбленае вывучэнне матэматыкі, англійскай мовы і эканомікі. Мы радыя адкрыць у нашай школе беларускі клас і спадзяемся, што колькасць вучняў у гэтым класе будзе павялічвацца», - сказаў дырэктар школы.

Адкрыццё беларускамоўнага 5 класа ў СШ № 29 стала магчымым дзякуючы настойлівасці бацькоў, дырэктару школы, падтрымцы з боку адміністрацыі Маскоўскага раёна г. Брэста і старшыні Брэсцкага гарвыканкама Аляксандра Рагачука.

Класны кіраўнік 5 “Г” беларускага класа СШ №29, настаўнік беларускай мовы і літаратуры, Ніна Мікалаеўна Палякова ў сваёй прамове падкрэсліла, што трэба вучыцца на роднай мове, а не на мове суседняй дзяржавы.

На беларускай мове звярнулася да вучняў намеснік загадчыцы вучэбна-метадычным кабінетам аддзела адукацыі, спорту і турызму адміністрацыі Маскоўскага раёна горада Брэста Дрык Н.С.

На пачатку другога урока прадстаўнік ад арганізацыі «Белая Русь» падарыў кніжкі кожнаму вучню беларускага класа.

Дарэчы, у 5 “Г” класе чацвёра хлопцаў, яны называюць сябе “чатыры танкіста”, “бітлы”, “машына часу” або “ніндзя гоу”.

## Пахаванне Воіна

3 верасня ў Берасце пахавалі Алеся Чаркашына, які загінуў у Данецкай вобласці Украіны, ён памёр ад цяжкіх раненняў, атрыманых падчас баёў каля пасёлка Старагнатаўка.



Чаркашын быў добраахвотнікам беларускага атрада “Пагоня”, знаходзіўся ва Украіне з пачатку года і меў пазыўны «Тарас». Алесь быў вернікам берасцейскай абшчыны Евангельскіх хрысціян-баптыстаў, на вайне выконываў ролю капелана, бо ведаў, што паміж жаўнерамі і Богам няма пасрэднікаў. Чаркашын лічыў, што веруючы чалавек павінен сумяшчаць веру і палітыку - кажуць пра яго тыя, хто яго ведаў. У ахопленны полымям вайны Данбас Алесь адправіўся па ўласнай ініцыятыве, будучы перакананы, што там вырашаецца лёс не толькі незалежнасці Украіны, але і беларускай дзяржаўнасці. На пахаванне ў мікрараёне «Кавалёва» сабраліся больш за 150 чалавек.

Здзівіла прамова чалавека, які выдаваў сябе за святара

пратыстанскай царквы. Аб нябожчыках гавораць або добра, або ніяк.У сваёй прамове гэты “святар” зневажаў родных, сяброў, прысутных, перешкаждаў прысутным прамаўляць над целам пакойнага. “Святар”, цытуя Біблію, парушыў запаведзь: “Не судзі і не судзімы будзешь”.

Пахавалі Алеся на могілках у Камяніцы-Журавецкай, дзе тыя, хто ведаў Алеся Змагара, усё ж змаглі годна завершыць пахаванне. Было сказано шмат праўдзівых слоў аб палеглым воіне. Прысутныя выканалі гімны Украіны “Щэ не вмерла Україна…” і гімн Беларусі “Магутны Божа…”. Пахаванне адбывалася на фоне песен Алеся, якія ён спяваў на фронце для сваіх пабрацімаў.

Развітацца з актывістам прыйшлі паплечнікі і сябры. Сярод іх былі ветэраны Берасцейскай арганізацыі БНФ “Адрадження”, сябры колішніх патрыятычных арганізацый “Белы легіён” ,”Край”, “Зубр”, прадстаўнікі патрыятычнай часткі беларускага грамадства, неабыякавыя берасцейцы, прыехала шмат людзей з берасцейшчыны і іншых гарадоў Беларусі.

Вечная памяць Воіну!

Вечная памяць Алесю Змагару!

## Адна комісія – адзін калектыў

Назіральнік тэрытарыяльнай камісіі па выбарах прэзідэнта ў Маскоўскім раёне г. Брэста Ўладзімір Вялічкін наведаў адну са школ у Берасці, каб паспрабаваць папрысутнічаць на першым пасяджэнні ўчастковай камісіі. Дырэктар школы паведаміла, што першае паседжанне участковай камісіі адбылося ўчора. Назіральнік пацікавіўся, ці быў «кворум» на паседжанні камісіі і як гэта атрымалася зрабіць, сабраць ўвесь склад камісіі. Дыректар школы пахвалілася, што ўчора яе настаўнікі першы дзень вышлі на працу пасля адпачынку. Назіральнік пажартаваў, давайце я ўгадаю, старшыня камісіі – гэта Вы.

- Так, - падцвердзіла дырэктар школы.

«З дадзенай сытуацыі вынікае наступнае:» -, кажа Уладзімір Вялічкін: «па-першае, каміссія складаецца з работнікаў аднаго колектыва на чале з дырэктарам. То бок камісія цалкам залежная ад




свайго працадаўцы, апрацадаўца ад свайго працадаўцы і гэтак далей да самага верха выканаўчай улады.

Па-другое, прыцягвае ўвагу шлях вылучення настаўнікаў у дадзеную камісію. Як яны патрапілі у склад камісіі, калі яны ўсе былі на адпачынку?

Каб вылучыцца ад грамадскасці трэба было збіраць подпісы. Каб вылучыцца ад працоўнага калектыва трэба было правесці сход працоўнага калектыва, які быў на адпічынку. Каб вылучыцца ад грамацкага аб'яднання ці ад партыі трэба таксама праваесці сход і вылучыць прэтэндэнтаў.

А гэта ўсё паперы. Толькі заяў і вынятак з пратаколаў аб вылучэнні з адной каміссіі ад 6 да 19 асобнікаў. Калі у Маскоўскім раёне 87 УВК палічыцце якая гурба дакументаў мусіць быць у Маскоўскай адміністрацыі. Менавіта таму 26 жніўня на пасяджэнні адміністрацыі Маскоўскага раёну аб утварэнні УВК я звярнуўся да адміністрацыі з просьбай паказаць дакументы па вылучэнні прэтэндэнтаў у склад УВК. Мне было адмоўлена. Тады я папрасіў праект рашення аб утварэнні участковай камісіі, каб ведаць, дзе, да каго звяртацца, каб патрапіць на першае паседжанне УВК. Мне таксама было адмоўлена. Казалі, што ухваленнае рашэнні пабачыце ў пятніцу у газеце «Заря». Таму я пайшоў у школу і переканаўся, што працес утварення камісій не празрысты, цалкам закрыты, што парушае артыкул 13 выбарачнага кодэксу Рэспублікі Беларусь і выклікае у мяне шмат сумневу і недаверу да выбарчай кампаніі.

Пакуль грамадкасці не будуць прадстаўлены ўсе дакументы па падрыхтоўцы і правядзенню выбараў вынікам такіх выбараў давяраць нельга.

# Дэградацыя судовай і праваахоўнай сістэм

11 верасня у Брэсцкім абласным судзе судовая калегія на чале з судзём Курэсюк, на пратэст Вярхоўнага суда, нанова разгледзела справу фермера Аляксандра Бяльчука, якая ў народзе атрымала назву “Трактарны канфлікт.” Нагадаем, поўтары годы таму капітан міліцыі Неліповіч атрымаў распараджэнне забраць незарэгістраваны трактар у фермера Бяльчука. Аляксандар не аддаў трактар і зачыніў яго ў гаражы, пасля чаго адбыліся падзеі, у выніку якіх фермер атрымаў 3 месяцы арышту.



На пачатку суда фермер А. Бяльчук звярнуюся з хадатайствам аб праглядзе відэа-матэрыалаў журналітскага разбіральніцтва па ягонай справе

Хадайніцтва за нязгодай пракурора было адхілена судом.

Адвакат Аляксандра Бяльчука ў судзе выклала свае аргументы на карыясь фермера, маўляў, у матерыялах справы ёсць дакуманты, якія падцвярджаюць, што капітан С.С. Неліповіч з’явіўся і паводзіў сябе на прыватным падворку незаконна, тое што ні адзін са сведкаў міліцыянтаў не быў відаводчцам канфлікту. Тое што капітан С.С. Неліповіч атрымаў цялесныя пашкоджанні і пацярпела ягоная вопратка аб’вяргаецца матэрыяламі справы. Больш таго, у матэрыялах справы ёсць дакумент, што ягоная форменая камізэлька была здадзена непашкоджанай і ў добрым стане. У той сама час, згодна экспертызы, кашуля фермера была запэцканая крывёй самаго фермера, крыві міліцыянта не было, ніхто і нідзе яе не зафіксаваў. У сувязі з гэтым адвакат папрасіла палічыць прысуд незаконным і безпадстаўным, і прізнаць, што ў дзеяннях Аляксандра Бяльчука

адсутнічае склад злачынства.

Суд даў слова пракурору Бураму. Пракурор быў кратак: “У матэрыялах справы зафіксаваны факт незаконнага выкарыстоўвання транспартнага сродка”.

Сам жа суд пасля кароткага перапынку агалосіў вердыкт: “Прысуд змяніць у часцы: “Павярнуць акуляры Бяльчуку”.

Праваабаронца Уладзімір Вялічкін прысутнічаў на паседжанні суду і пракаментаваў яго:

“Усё пасяджэнне змясьцілася ў трох ключавых фразах:

- Фермер Бяльчук скардіцца: “Мяне незаконна збілі і пасадзілі”.

- Пракурор запярэчвае: “Вы незаконна выкарыстоўвалі транспартны сродак”.

- Суд прыйшоў да высновы “Павярнуць акуляры Бяльчуку”.

Дзе логіка? Гэта відавочная дэградацыя судовай і праваахоўнай сістэм!

Капітан Неліповіч пасля здарэння, пайшоў на павышенне, а абласны суд адсправаздачыўся перад верхоўным судом, што разгледзеў справу нанова.

Брэсцкі абласны суд насмяяўся з Вярхоўнага суда!”

## Лісты з няволі праваабаронцы з Таджыкістану

У Берасьце з чэрвеня месяца ў следчым ізалятары знаходзіца праваабаронца з Таджыкістану Шабнам Худайдодава, якая накіроўвалася ў Польшчу, але была затрымана памежнікамі, бо знаходзілася ў міждзяржаўным вышуку за экстрэмісцкую дзейнасць на тэрыторыі сваёй краіны.

Нагадваем, што Шабнам Хадайдодава з’яўляецца актывісткай апазіцыйнай таджыкскай арганізацыі “Група 24”. Насамрэч, яна вінаватая толькі ў тым, што ў сацыяльных сетках крытыкавала таджыкскія ўлады за праводзімую імі палітыку.

Худайдодава Шабнам звярнулася з хадайніцтвам да беларускіх уладаў аб прадастаўленні ёй прытулку, бо асцерагаецца яе выдачы ў Таджыкістан.

Праваабаронцы з Берасцейскай Вясны, якія зацікавіліся лёсам Шабнам, атрымалі лісты Шабнам, якія яна слала знаёмай са следчага



ізалятара. Здзівіла тое, што чатыры лісты Шабнам нават не былі адкрытыя і прачытаныя. Шабнам вельмі баіцца, што яе могуць адправіць у Таджыкістан, дзе яе будуць не толькі катаваць, але і заб'юць.

Праваабаронцам з Берасьцейскай Вясны празь юрыста Рамана Кісляка ўдалося звязацца з яе сястрой Міжгонай, якая пражыве ў Санкт-Пецярбургу, перадаць ёй лісты і ўсяляк яе супакоіць. Родныя перажываюць за Шабнам, ад якой не атрымлівалі лістоў. Дамовіліся быць на сувязі пастаянна. Таксама быў высланы ліст Шабнам, з просьбай пісаць на іншы адрас.

Размаўляючы з сястрой Міжгонай, высветлілася, што Шабнам са сваімі паплечнікамі ніколі не сустракалася, мела зносіны з імі толькі па скайпе праз інтэрнэт, што яна не займалася экстрэмісцкай дзейнасцю. Сястра Міжгона таксама баіцца выдачы Шабнам Таджыкістану, кажа, што Шабнам проста знікне. Прэзідэнт Таджыкістана Эмамалі Рахмона сказаў, што людзям, якія крытыкуюць уладу ніколі не даруе і не памілуе.

Шабнам Худойдодова яшче пару месяцаў будзе знаходзіцца ў СІЗА, таму неабыякавыя берасьцейцы могут падтрымать яе перадачамі.

Спачуванне і міласэрнасць не мае межаў і нацыянальнасцяў.

Нагадваем прыёмы перадач у СІЗА Берасця з 8.30 по 13.00.

Трэба ўлічваць, што забаронена передаваць спіртаўтрымліваючыя напоі, хуткапсуючыяся прадукты харчавання, кулінарныя поўвырабы, цыгарэты і цукеркі ва ўпакоўцы (без фанцікаў і пудэлак). Нельга перадаваць прадукты і напоі ў шкляных слоіках ці металічных пушках (Вітаюцца садавіна, гародніна, макароны “рольтан”, сродкі гігіены). На месяц можна перадаць ня больш за 30 кг перадач.

# Жыхары вёскі Споравa папярэдзілі Аляксандра Лукашэнку аб няўдзеле ў выбарах



Па словах жыхароў вёскі Спорава Бярозаўскага раёна, яны не вераць ні мясцовым, ні раённым, ні абласным і нават рэспубліканскім уладам. Амаль год яны змагаюцца за вяртанне возера, здадзенага ў арэнду ў 2014 годзе. Апошняя інстанцыя – гэта Аляксандр Лукашэнка, і калі ён не вырашыць справу аб'ектыўна і па закону, спораўцы адмовяцца ад удзелу ў выбарах.

Канфлікт узнік пасля таго, як узяў у арэнду возера Спораўскае прадпрымальнік з Баранавіч Анатоль Заблоцкі. Пасля гэтага на возера вяскоўцам ні нагой, дзецям зімой на лёдзе таксама катацца нельга. Катэдж прадпрымальнік збудаваў з дазволу ўладаў на месцы археалагічнага помніка, які ахоўваецца дзяржавай. За свае грошы ён замовіў новую экспертызу, і з АН РБ прыйшло заключэнне, што стаянкі ў тым месцы няма, мажліва, вымыта вадой з возера. Быў разбураны помнік, які стаяў на магіле загінулых партызан, таму што замінаў будучай будоўлі кавярні каля гэтага месца. Зноў жа з дазволу ўладаў.

Па словах спараўчан, міліцыя, пракуратура, улады на баку Заблоцкага. На сходзе ён хваліўся, што ў яго высокапастаўленыя сябры. Не звяртаюць праваахоўныя органы ўвагі на той факт, што пры ўдзеле ў конкурсе ў 2014 годзе Заблоцкі выкарыстаў дакументы, зробленыя ў 2011. З 300 чалавек, што ў 2011 годзе далі згоду на арэнду возера, за гэтыя гады памерла каля 30 чалавек.

У такой сітуацыі людзі не бачаць сэнсу ўдзельнічаць у выбарах, бо законы не працуюць і не абараняюць простых людзей.

http://spring96.org/be/news/79915

## Бяры партфель, ідзі дамоў!

Толькі новыя свабодныя выбары выведуць Беларусь з тупіка.

Нічога асабістага, але гэты ўрад павінен сысці ў адстаўку. І яшчэ лепш - разам з галоўным архітэктарам беларускага «эканамічнага цуду», які пры найбліжэйшым разглядзе выявіўся эканамічным тупіком. Пры гэтым некаторым членам Савета міністраў не лішняй была б і позва на размову да следчага Генпракуратуры.

Спытаеце за што?

Па-першае, за дыскрэдытацыю нацыянальнай валюты: у пачатку 2009 года курс быў Br2650 за $1. Сёння ён набліжаецца да Br18000 за даляр. Дэвальвацыя нацыянальнай валюты амаль у сем разоў за няпоўныя сем гадоў - гэта грашовая катастрофа. Ці трэба камусьці тлумачыць (акрамя вышэйшых чыноўнікаў), што без моцных грошай не можа быць паўнавартаснага суверэнітэту і нацыянальнай бяспекі?!

Па-другое, за нанясенне насельніцтву, суб'ектам гаспадарання, камерцыйным арганізацыям і інвестарам шкоды ў асабліва значным памеры праз інфляцыю. Паводле ўзроўню гадавой інфляцыі ў 1997-2015 гадах Беларусь з'яўляецца сусветным лідарам. Лідарства, якое прымушае сарамліва чырванець не толькі віп-чыноўнікаў, але і грамадзян нашай краіны. Першае - за не прафесіяналізм, другое - за цярпенне непрафесіяналаў.

Па-трэцяе, за дэіндустрыялізацыю і разбурэнне працоўных месцаў. У стане банкруцтва або блізкім да яго цяпер знаходзіцца блізу 1300 прамысловых прадпрыемстваў. Амаль мільёну беларусаў у працаздольным узросце не знайшлося месца на рынку працы. Плюс больш за паўмільёна працоўных месцаў - у зоне наўпроставай пагрозы ліквідацыі.

Звыш 50 тысяч індывідуальных прадпрымальнікаў да канца года будуць вымушаныя спыніць працу праз эканамічную палітыку ўрада. А калі прыняць да ўвагі скандальную пастанову №666, то гэтая лічба будзе істотна вышэйшай.

Па-чацвёртае, за правалы ў дзяржаўнай інвестыцыйнай палітыцы. Цягам апошніх 10 гадоў урад накіраваў у дрэваапрацоўку, ільнаводства, сельскую гаспадарку, сектар будматэрыялаў,

энэргетыку ў эквіваленце блізу 100 млрд даляраў, сабраных з падаткаплацельшчыкаў. А які ККД? На выхадзе мы маем рэцэсію ў эканоміцы, імклівае скарачэнне экспарту, энэргаёмістасць у 2-3 разы вышэйшую, чым у Еўразвязе, прадукцыйнасць працы - у 3-5 разоў ніжэйшую, чым у ЗША, ФРГ ці Канадзе.

Па-пятае, за скандальна нізкую якасць кіравання дзяржаўнымі актывамі і рэсурсамі. Ва ўпраўленні кіроўнага клана знаходзяцца грамадскія багацці на суму больш за 150 млрд даляраў. Пры гэтым даходы ў бюджэт ад кіравання гэтымі актывамі і рэсурсамі мізэрныя, менш за 1% ад сукупных даходаў бюджэту. А вось аб'ём «замарожанага» капіталу ў складскіх запасах, неліквідах, беззваротных пазыках, будынках, якія руйнуюцца, ржавеючых станках, машынах і абсталяванні перавышае 15 млрд даляраў. Гэта не проста шкодніцтва, гэта дзеянні, накіраваныя на падрыў падмурка нацыянальнай бяспекі.

Па-шостае, за даўгавыя распіскі, якімі ўлады па руках і нагах звязалі сваіх грамадзян. Сукупная вонкавая пазыка ўжо перавысіла 40 млрд даляраў. Вялізныя для Беларусі грошы! Кожны з нас, не атрымаўшы ні капейкі, вінны больш за 4 тысячы даляраў. І самае сумнае, што ідзе назапашванне крэдытаў, узятых не на развіццё, не на мадэрнізацыю, а на выплату і абслугоўванне старых пазык.

Цяперашняя сістэма - тупік! Ні ідэй, ні канкурэнцыі, ні матывацыі, ні руху, ні развіцця. І адказнасць за гэта цалкам і цалкам ляжыць на Лукашэнку і ягоным урадзе. Беларусі патрэбны новы эканамічны курс - праграма «Мільён новых працоўных месцаў», новая, адказная, прафесійная каманда. Але для гэтага неабходна адна ўмова - сумленныя, свабодныя выбары.

http://charter97.org/be/news/2015/9/15/169016/

## У Берасці – толькі пікеты ў падтрымку Караткевіч

У Берасці колькасць месцаў для правядзення пікетаванняў – дастаковая, кажа берасцейскі праваабаронца Уладзімір Вялічкін. Так актывісты могуць ладзіць сустрэчы з выбаршчыкамі ў 38-мі кропках горада: па вуліцы Савецкай, у парках і скверах, каля буйных крамаў і на галоўных вуліцах. Пад забаронай правядзенне мерапрыемстваў у




блізкай адлегласці ад адміністрацыйных будынкаў.

Са словаў Уладзіміра Вялічкіна, варта фіксаваць увагу грамадства на іншых рэчах, да прыкладу, незаконным выкарыстанні кандыдатамі дадатковага адміністрацыйнага рэсурсу:

– Вызначаныя месцы – гэта пераважна пляцоўкі перад гіпермаркетамі, крамамі, шмат людзей там ходзіць і ў іх ёсць магчымасць пабачыць пікеты і атрымаць агітацыйныя матэрыялы. Іншая справа, што ў “кандыдата №1” ёсць дадатковыя магчымасці – актавыя залы, “чырвоныя куткі” розных прадпрыемстваў і арганізацый, дзе гэта ўсё можа ладзіцца.

У дазволеных мясцовымі ўладамі месцах пакуль можна пабачыць толькі пікеты ў падтрымку кандыдаткі Таццяны Караткевіч. Мерапрыемствы ў падтрымку Аляксандра Лукашэнкі, Мікалая Улаховіча і Сяргея Гайдукевіча не адбываюцца.

http://www.racyja.com/palityka/u-berastsi-tolki-pikety-u-padtrymku-ka/

## Назіральнікі АБСЕ сустрэліся з берасцейскімі праваабаронцамі

На мінулым тыдні ў Берасце пачала працу місія па назіранні за прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі. 14 верасня доўгатэрміновыя назіральнікі Збігнеў Чарпінскі і Кірстэн Ёргансан сустрэліся з праваабаронцамі з Берасьця, назіральнікамі ад Беларускага Хельсінскага Камітэту Уладзімірам і Маргарытай Вялічкінымі, а таксама пагутарылі з юрыстам Берасьцейскага аддзялення ПЦ




"Вясна" Уладзімірам Малеем.

Кірстен Ёргасан распавяла, што місія будзе ажыццяўляць назіранне за выбарамі, каб вызначыць адпаведнасць абавязальніцтвам у рамках АБСЕ, міжнародным абавязацельствам і стандартам дэмакратычных выбараў, а таксама нацыянальнаму заканадаўству. Кірстан паясніла, што яны будуць назіраць за агітацыйнымі мерапрыемствамі, працай выбарачнай адміністрацыі і урадавых органаў, прымяненнем выбарчага заканадаўства, будуць разглядаць скаргі, а таксама праводзіць маніторынг асвтлення кампаніі ў СМІ.

У дзень выбараў назіральнікі ад АБСЕ будуць сачыць за адкрыцём выбарачных участкаў, за ходам галасавання, падлікам бюлетэняў, падвядзеннем вынікаў.

У выніку праз два месяцы пасля завяршэння выбарачнага працесу будзе апублікованы канчатковы даклад аб назіранні за ўсім выбарачным працэсам.

У сваю чаргу берасцейскія праваабаронцы азнаёмілі назіральнікаў АБСЕ са спецыфікай выбараў у Беларусі, а таксама падзяліліся досведам назірання папярэдніх выбарчых кампаній на берасцейшчыне.

Назіральнікі муселі прызнаць, што год ад году ўлады дасканаляць метады па недапушчэнню назіральнікаў да паўнавартаснага назірання за выбарамі, трактуюць выбарчае заканадаўства адвольна, падмяняюць паняцці прапісаныя ў заканадаўстве. Да прыкладу, выбарчым кодэксам не прадугледжана іншай формы працы камісіі, як пасяджэнне, але ж назіральнікаў запрашаюць, нібы для дэманстрацыі адкрытасці і празрыстасці выбараў, але толькі тады, калі камісіям

зручна, у іншыя дні назіральнікі непажаданыя бо гэта не пасяджэння, а “рабочыя моманты”, а назіральнікі перашкаджаюць ім працаваць.

Назіральнікам таксама не даюць знаёміцца з дакументамі па выбарах, якія патрапляюць у адміністрацыі і выбарчыя камісіі, то бок парушаецца канстытуцыйны прынцып адкрыасці выбараў…

Назіральнік Уладзімір Вялічкі перакананы, што улады робяць усё, каб пазбавіць назіральнікаў магчымасці атрымаць дакументальныя доказы аб парушэннях падчас выбараў. Назіральнікаў проста “дураць” даюць інфармацыю ў вуснай форме і паказываюць тое, што трэба ўладам, ці, а не тое, што ёсць на самой справе. Такім выбарам веры няма.

Маргарыта Вялічкіна паведаміла, што яна бярэ удзел у выбарах у якасці незалежнага назіральніка ужо 20 год. Была назіральнікам па выбарам ўчастковых камісіях, у гэтым годзе назіральнік ад БХК у терыітарыяльнай каміссіі ў Ленінскаму раёне г.Брэста. Гэтым разам яна пабачыла, што пасяджэнні праходзяць таемна або іх няма. Афіцыйна назіральніка запрасілі на тры паседжэння, а пратаколаў аб пасяджэннях камісіі ўжо склалі пяць.

## Камітэт па правах чалавека ААН палічыў парушанымі правы брэсцкага актывіста Юрыя Бакура

У індывідуальным паведамленні ў Камітэт па правах чалавека ААН Юрый Бакур заяўляў, што затрыманне і прыцягненне да адміністрацыйнай адказнасці (нібыта за ўдзел у правядзенні несанкцыянаванага масавага мерапрыемства ў 2007 годзе) ён лічыць незаконным.

Актывіст быў затрыманы 19 жніўня 2007 года ў офісе Брэсцкай абласной арганізацыі Партыі БНФ, дзе адбывалася адкрытае пасяджэнне савета гарадской арганізацыі партыі, і адным з пытанняў парадку дня была сустрэча з палітыкам Паўлам Севярынцам і прэзентацыя яго кнігі “Лісты з лесу”. У той дзень супрацоўнікі міліцыі затрымалі 28 удзельнікаў пасяджэння, з якіх 15 былі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці.

4 верасня таго ж года суд Маскоўскага раёна Брэста прыняў рашэнне прызнаць Бакура вінаватым па частцы 1 артыкула 23.34 КаАП (удзел у правядзенні несанкцыянаванага мерапрыемства) і аштрафаваў на тры базавыя велічыні (на той час 93 тысячы беларускіх рублёў).

Спробы Юрыя Бакура абскардзіць гэтае рашэнне ў вышэйшых судовых інстанцыях былі беспаспяховымі, і ў ліпені 2008 года ён звярнуўся ў Камітэт па правах чалавека ААН. Як паведаміў праваабаронца Раман Кісляк, які прадстаўляў інтарэсы брэсцкага актывіста ў Камітэце, скарга Бакура была зарэгістраваная ў 2009 годзе.

Паводле Рамана Кісляка, рашэнне па справе Бакура было прынята сёлета 15 ліпеня на апошняй сесіі Камітэта ААН. Гэты міжнародны орган прызнаў, што ў дачыненні да Бакура былі парушаны правы на свабоду і асабістую недатыкальнасць, на свабоднае выказванне сваіх поглядаў і на мірныя сходы.

Праваабаронца адзначыў, што адна з асноўных функцый Камітэта па правах чалавека ААН пры разглядзе індывідуальных скаргаў - указваць дзяржавам на неправамернае заканадаўства ці практыку яго прымянення, якое парушае міжнародныя дамовы. “Хваля затрыманняў у Беларусі людзей на сходах, якія ладзяцца ў памяшканнях, у апошнія гады пайшла на змяншэнне. Спадзяюся, што рашэнне па справе Бакура яшчэ больш замацуе гэтую пазітыўную тэндэнцыю”, - заявіў Кісляк.

http://spring96.org/be/news/79931

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны
«Мяжа»